# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЕВІК




№ 5 (727) ГОД XV БЕЛАСТОК 1 ЛЮТАГА 1970 г. ЦАНА 60 гр.




1 лютага г.г. мінае 20 год ад дня стварэння першай вышэйшай тэхнічнай школы на Беласточчыне — Вышэйшай інжынерскай школы.

Зараз на 3-х факультэтах ВСІ вучыцца 2200 студэнтаў, з чаго 1095 на дзённым аддзяленні; працуе тут 141 навукова-дыдактычны работнік. Толькі ў 1969/70 г. прынята тут на першы курс 632 студэнтаў. У ВСІ існуе 27 прадметных калектываў (асноўныя арганізацыйныя дзялянкі навуковай і дыдактычнай працы), 21 кабінет і 29 лабараторый. За 20 год існавання ВСІ выпусціла 932 інжынераў, з чаго ў мінулым годзе 228. На працягу апошніх двух год створана тут 6 новых лабараторый, а кваліфікаваныя навукова-дыдактычныя кадры павялічыліся за гэты ж перыяд на 63%.

З нагоды юбілея мы звярнуліся з некалькімі пытаннямі да прарэктара ВСІ дацэнта др Генрыка Дзержка.

— Зараз Вышэйшая інжынерская школа — вядомая і заслужаная вышэйшая навуковая ўстанова на Беласточчыне. А як справа выглядала два дзесяткі год таму назад?

— Дваццаць год таму існавала вялікае запатрабаванне на інжынерна-тэхнічныя кадры для адбудовы і развіцця беластоцкай прамысловасці. Кадры трэба было рыхтаваць уласнымі сіламі. З ініцыятывай стварэння ВСІ выступіла група дзеячаў НОТ са старшынёй аддзела НОТ у Беластоку мгр інж. К. Бялкоўскім. 24 лістапада 1949 г. Міністэрства асветы выразіла згоду на стварэнне Прыватнай вячэрняй інжынерскай школы НОТ-у ў Беластоку.

Ужо ў 1950 годзе ў гасцінным памяшканні былога Педадагічнага ліцэя (зараз філія Варшаўскага універсітэта) рэктар мгр інж. К. Бялкоўскі прывітаў першых 98 студэнтаў ВСІ электрычнага і механічнага факультэтаў. Факультэт сухапутнага будаўніцтва распачаў працу са студэнтамі ў наступным годзе. У канцы лістапада 1951 года ВСІ ў Беластоку стала дзяржаўнай школай, перайшла пад непасрэдную ўправу Міністэрства вышэйшых школ і навукі і была ахоплена законам аб вышэйшым школьніцтве і работніках навукі.

— А цяжкасці? Дзе ж іх не было. Уявіце сабе, што школа не мела самастойных навуковых работнікаў. Навучанне абапіралася на маленькай колькасці магістраў інжынераў і інжынераў, якія працавалі ў прамысловасці. З прычыны недахопу лабараторый, патрэбнага абсталявання студэнты большасць лабараторных заняткаў праводзілі ў Варшаўскай палітэхніцы. У такіх умовах, пры 13 штатных дыдактычных працаўніках школы, у 1954 годзе наша ўстанова выдала нашым абсальвентам 57 першых дыпломаў інжынераў.

**— У міжчасе ў інжынерскай школе адбываюцца важныя арганізацыйныя змены. У чым яны заключаліся?**

— Першая справа — гэта пераўтварэнне Вячэрняй інжынерскай школы ў Вышэйшую інжынерскую школу з правам навучання на дзённым аддзяленні і аддзяленні для працуючых (вячэрнім і завочным) на прынцыпах вышэйшай прафесіянальнай школы. Згодна з існуючымі тады законамі, вышэйшыя прафесіянальныя школы не мелі абавязкаў вядзення навуковай працы. Новы закон у 1968 г. зраўняў ВСІ ў правах і абавязках з іншымі вышэйшымі школамі. У 1969 г. у нашай ВСІ быў скліканы Сенат як дарадчы орган.

**— Можна меркаваць, што новы закон вызначыў новыя заданні для школы. Ці гэта не сталася неспадзянкай для ўлад і навуковых работнікаў вашай ВСІ?**

— Не, абсалютна не. Навукова-даследчыя работнікі маглі разлічваць на дапамогу ўлад ВСІ ў галіне вядзення навуковых даследаў на доўга перад зменай закона. Толькі ў 1969 годзе на выдаткі, звязаныя з навуковымі доследамі, выкарыстана больш чым 700 тыс. зл. Зараз тэмы, якія нам прапануюць прадпрыемствы, маюць амаль выключна навуковы характар, а часта становяцца крыніцай доктарскіх, а нават габілітацыйных прац. Некалькі год таму назад прапанаваныя працы мелі характар перш за ўсё паслуг.

**— А якая будучыня Вашай школы?**

— Паколькі месца ў газеце абмежаванае, скажу толькі аб некаторых планах. Адзін з напрамкаў нашай дзейна-

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

● Гурток беларускага таварыства ў вёсцы Лука на Гайнаўшчыне супольна з гуртком Саюза вясковай моладзі 7-га студзеня арганізавалі акадэмію, прысвечаную 100-ай гадавіне з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Даклад прачытала Вера Харкевіч. Пасля адбылася мастацкая частка, якая складалася з п'есы «Зямля» Юркі Геніюша, п'есы «Конская кніжка» Уладзіміра Паўлючука, з песень і гумару. Вяла акадэмію і мастацкую частку Жэня Карольчук. На ўрачыстасці было больш 100 чалавек.

● Эстрада з Арэшкава, якою апекуецца гайнаўскі аддзел БГКТ, 7-га студзеня дала канцэрт у вёсцы Кузава, 8-га студзеня — у Арэшкаве, а 14-га студзеня — у Семяноўцы.

● 9-га студзеня адбылося пасяджэнне прэзідыума сакольскага аддзела БГКТ з наступным парадкам дня: а) справы, звязаныя з арганізацыяй навагодняй ёлкі для дзяцей, а таксама вечарыны для іх бацькоў і актыву аддзела, б) арганізацыя сустрэчы актыву аддзела з выкладчыкамі беларускай мовы ў пачатковых школах павета.

● Актыў гайнаўскага аддзела БГКТ 10-га студзеня весела гуляў на танцавальнай вечарыне, якая адбылася ў Доме настаўніка.

(Працяг на стар. 5)

ПА СЛЯДАХ БАЦЬКОЎ



**Лыжнікі складаюць вянок.**




Нядзеля, 11 студзеня г. г. У Піліках, што каля Бельска, урачысты настрой. На святліцы лозунгі. Сведчаць яны аб тым, што мае тут адбыцца маладзёжна-спартыўная ўрачыстасць. Піліцкія дзяўчаты і хлопцы ўдэкаравалі таксама святліцу ўнутры. Паколькі пражывае тут насельніцтва як каталіцкае, так і праваслаўнае, святы працягваюцца тут цэлы месяц — аж да праваслаўных «Трох каралёў». Прыгожа тут і святочна.

Чуваць званочкі. Гэта едзе моладзь з Дубяжына, Мокрага, Шасталоў і Кнарыд. Запрэжаныя санкі затрымліваюцца ля святліцы. Прыбылых вітаюць прадстаўнікі піліцкіх гурткоў ЗМВ і ЛьЗС. Праз момант далучаюцца яшчэ санкі з Пілікаў. Сярод прысутных моладзь з Бельска. Маленькія папраўкі дэкарацыі коней, і 26 санак вырушае на зімовы кулік пад помнік гітлераўскіх ахвяр, забітых тут, у Піліцкім лесе.

Гараць агні славы. З прамовай выступае старшыня ГРН у Піліках Мікалай Ракоўскі. Напамінае ён пра лёсы 180 жыхароў Бельска і мясцовых вёсак, якія былі закатаваны ў Піліцкім лесе. Прысутныя мінутай цішы ўшаноўваюць гонар загінуўшых. Прадстаўнікі паасобных дэлегацый складаюць вянкі ля помніка. Кулік едзе далей.

Лясок Асушак. Тут удзельнікаў куліка чакае гарачы бігос. Пасля распачынаюцца гульні, спартыўныя спаборніцтвы. У перацягванні ліны перамагае піліцкая група. У лыжных спаборніцтвах на 1000 метраў перамог Багдан Чайкоўскі. Трэба напомніць, што на гэтай паляне ў часе акупацыі немцы вялі ваенныя трэніровачныя заняткі.

Сярод прысутных знаходжу старшыню павятовай рады ЛьЗС у Бельску Сцяпана Сільвеструка. Пытаюся, як дайшло да арганізацыі гэтага мерапрыемства.

— Гэтую прапанову высунула моладзь з тэрыторыі ГРН Пілікі. Моладзь падтрымала ГРН. Мы ў павеце прынялі на сябе ролю каардынатара. І што тут важнае на маю думку, у мерапрыемства заангажаваліся іншыя арганізацыі. Да супрацоўніцтва прыступілі такія арганізацыі, як ЗМВ, ЗМС, ЗГП, СЗС (школьны спартыўны саюз), агніска ТККФ пры павятовай радзе ў Бельску і аддзел ПТТК. Адны ўносілі грашовыя сумы, іншыя дапамагалі ў арганізацыйных справах і гд. Несумненна, найбольш працы ўлажылі гаспадары прадпрыемства.



**Выступае Мікалай Ракоўскі, старшыня ГРН.**

Праграма куліка была абшырнейшая. Снег у гэтым крыху перашкодзіў. Але мерапрыемства вельмі ўдалося. Удалося і таму, што бельскія ЛьЗС-ы адпаведна разумеюць справы каардынацыі і што гэтыя справы прымаюць на сябе прадстаўнікі грамадскіх рад.

**А. К.** **Фота Цаф — Сянько**



**Удзельнікі куліка ля помніка ў Піліках.**

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 134

## • ПІСЬМО МАЦІ •

Як ты жывеш,
Матуля дарагая?
З тугой на сэрцы,
У чаканні горкім,
Перад іконай
Рукі ў крыж складаеш
І просіш Бога,
Каб прыйшоў сын з войска...

Цябе жыццё
Не ласкала ніколі
Праменнем-ластаўкай,
Ні пірагом пшанічным;
Аржаны хлеб
Пасыпала ты соллю,
Толькі лустай
Няма з кім падзяліцца.

А за акном
Гарыць пажарам восень,
І журавы
Ключом ляцяць на захад,
А ў хаце пуста,
Ні сябра, ні госця,
І вецер
Вые голасам сабачым.

Знаю,
Хацела б ты жыцця другога.
Каб дом быў новы,
Цёплы і шчаслівы...
Казкі баяць
Для ўнучачка малога,
З нявесткай жыць
Так, як з дачкой праўдзівай...

Мама!
На ўсё ты заслужыла,
Ды лёс не дорыць
Бедным сваёй ласкі.
А смутак твой і свой,
Пяром не змыю,
Бо на ліхую славу
Я не ласы.

І так гаруй
Да восені другое.
Ніхто табе
Добрым слаўцом не кіне.
А ты бяду
Горкай абліеш слязою,
Перад іконаю
Чакаючы на сына.

А я прыду
Без ніякіх падаркаў
І спрацаваныя рукі
Шчыра пацалую,
І на стале старым
Зноў стане чарка.
За долю вып'ем
Добрую і злую...

А за акном
Гарыць пажарам восень.
І журавы
Ключом ляцяць на захад.
А ў хаце пуста,
Ні сябра, ні госця...
І вецер вые
Голасам сабачым.

Уладзімір Гайдук



## ТРЭЦЯЯ ПАРА



Ядзя выйшла замуж. Яна пайшла замуж за Стася. Яна пайшла за яго таму, што ён хацеў жаніцца. І яшчэ таму, што Ядзя дайшла да таго месца жыцця, дзе канчаецца вясна і пачынаецца лета.

Тады ўбачылі Ядзю ўсе. Убачылі кветкаю сярод урачыстай нядзелі; кветкаю, калі глядзець на яе ў цішыні палёў. Далёка звоняць у касцеле.

Ядзя кахае Стася. Яна да таго ж моцна кахае яго, што аж не думае. Усё роўна, бы тая вішанька, што расчырванелая шчасцем дасьпеласці мілуецца з сонцам. Без памяці, зусім без памяці.

Ядзя пакуль не апрытомнела настолькі, каб здзівіцца, чаму не з'яўляецца ў снах яе Юрка. Той Юрка, без якога раніцы маладосці былі днямі пакут, а вечары адпушчэннем іх. Вечары бэзавыя, вечары язьмінавыя, вечары вяргіневыя.

Час кахання настаў, час і пара. Трэцяя пара з чатырох.

ЗАПЫТАННІ. Чаму хлопцы жэняцца не з тымі, якіх кахаюць? І чаму дзяўчаты ідуць не за тых?

Сакрат Яновіч

*

Дазволь глядзець у вочы.
Маланкі над палямі,
Месяц над балотам
дазволь убачыць у іх.
Не вяртайся ветрам восені.
Шаленства ветру рэдка вяртаецца,
як ты.
Дазволь пераліць у твае вочы
буру і горыч кахання,
недарэчнасць чакання.
Адыйду з веснавою зеленню,
толькі дазволь...

Вераніка Леанюк



## • КАВАРНЫЯ •

Мары пракаціліся павозкай
на гонах роздуму
лагчынах бесклапотнасці
вобразы
як спіцы мігцяць
перад вачыма непакою
хто мне адкрыў душу
столькі кінута ў яе зброі
супроць мяне
самога

## • ЧАРЫ? •

У цотнай лічбе
не знайшоў
спарыша яснасці
у днях гадоў
маёй шчаслівай
трынаццатка
і тройка
таму мяне лякаюцца
як чару
заклятага
у няцотных ліках

*Яша Бурш*




## • НЕ СУМУЙ, БЯРОЗА •

Не сумуй, бяроза,
Не шумі, рака,
Што так сёння ціха
У хаце рыбака.

Бо хоць вас пакінуў
І пайшоў у свет,
Памяць не загіне,
Хоць затрэцца след.

Сніцца будзе нерат,
Закіданы ў тонь,
І лісткі бярозы,
Што кранала скронь.

Як чаўно старое
Гойдала рака.
Дрэўца маладое
Песціла рука.

І хоць плачуць лозы,
Шэпча асака:
Не сумуй, бяроза,
Не шумі, рака.



*

Кліча зямля
ўсіх на дапамогу
бо заблыталася
ў сетку няшчасця
вісіць над светам
вечнай трывогай
закінутая
чалавекам-чалавеку
на існаванне жыцця
сплеценая моцна
з вочак — снарадаў
куль і бомб —
блізарукая гордасць
дваццатага веку.

Л. Танкевіч

## СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ

І. Чыквін

### • НА В. ШВЕДА •

На цябе напала дзіцячая змора,
Фатальным камплексам надзелен ты,
братка —
Ты будзеш заўсёды ліць ваду у мора,
Хоць ў Моры
вады для усіх
пад дастаткам.



### • НА С. ЯНОВІЧА •

Рэдакцыйны цяжкі конь дзьме у храпы —
Вузка стойла для яго,
ён жа дужы!
Шчэ капытам стрэліць у каго!
Выпусціце
з літаратурных
дужак
(Сакрата).



### • НА В. РУДЧЫКА •

Піша аповесць-рэчку да цямна
Пад шапкаю дуба.
Ах, Віктар, сораму для цябе няма!
Ці аб дзяўчатах ты падумаў?!



## • ЭЦЮД •

Такое мілае ранне!
Я выбягаю босы.
Сонечнае ззянне
Ліжа малочныя росы.
Пахне гурочным цветам
І бульбяною мятай...
Сцелецца марляю светлай
Пухкі туман каля хаты.

М. Мельнік

## ЧАЛАВЕК З-ПАД МОНТЭ КАСІНА

Стаіць пры плоце ў Крывашоў.

Вымае з кішэні газету і махорку і пачынае круціць папяросу.

Апрануты ў самаробны гарнітур і белую шапку з казырком на лысай галаве. А туфлі бачылі не адно свята. Гэта Дзюрдзё.

Нядзеля на Сакольскай вуліцы спакойная і зялёная. Людзі ідуць у касцёл.

Ён сядае на лаўку пад зялёным ад моху плотам. Бабы васілёўскія прыглядаюцца да яго. На збляклым пінжаку крыж. Кажуць старыя, што гэта крыж Віртуці Мілітары.

Хто яго ведае, што ён за чалавек?...

Мы, малыя, ведаем, што крыж дастаў ён за бой дзесьці заграніцаю.

Дзюрдзё ўстае і ідзе праз панадворак Крывашоў да сябе, да хаткі над рэчкаю. Знімае гарнітур, садзіцца на бераг і ўглядаецца, як кальшацца трава, услухоўваецца, як бзычаць пчолы і чмялі і як гудзіць самалёт у паднябессі.

Думае. Хто яго ведае, аб чым ён так думае?

Аб смерці?

Эдвард Ярашэвіч

 

# ЦІКАВЫ САНДАЖ

Марыя Ангельчык — інспектар культуры павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы — правяла адзін цікавы сандаж у павеце. У выніку напісала працу на тэму: «Культурна-асветны працаўнік і эфекты яго працы».

Зыходным пунктам для гэтай працы стала ананімная анкета да ўсіх культурна-асветных працаўнікоў у клубах, святліцах, грамадскіх цэнтрах культуры, бібліятэках.

Рэдакцыя вырашыла апублікаваць невялікую частку працы Марыі Ангельчык. Даем тут як бы вывады аўтара.

З тэзісамі можна згаджацца і не згаджацца. Каштоўнае ў іх аднак тое, што аўтар бачыць разнастайнасць праблем культурна-асветнай працы на вёсцы і крытычна да іх падыходзіць.

### БІБЛІЯТЭКІ

У бібліятэках, дзе працаўнік мае сярэднюю прафесіянальную адукацыю, больш чытачоў, пазычаюць больш кніжак, лепш удзельнічаюць у розных мерапрыемствах бібліятэкі: у кнігазборы тут большы лад і парадак. Гэта таксама кадры больш сталыя. У бібліятэцы, дзе працуе асоба з пачатковай школай, выступае праблема, як прыцягнуць чытача ў бібліятэку. Такая бібліятэка пры тым нічога цікавага не арганізуе. У ёй балаган у кнігазборы, кніжкі не ўпарадкаваны, дрэнна разложаны на полках. Такі бібліятэкар робіць толькі тое, што падае кніжку чытачу, і то найчасцей малавартасную. Не выступае ў такой бібліятэцы праца з кніжкай грамадска-палітычнай. Такія бібліятэкары хутка пакідаюць працу.

Як многа можа рабіць добры бібліятэкар, сведчыць прыклад Нарвы. Бібліятэкарша тут з'яўляецца таксама раднай павятовай рады, членам партыі. Здабывае найлепшыя вынікі ў павеце па чытальніцтву, хоць працуе ў цяжкім асяроддзі. Але мае яна вялікі аўтарытэт, многа сама чытае, завочна атрымала бібліятэкарскую адукацыю; з ёю можна пагаварыць на любую тэму.

### СВЯТЛІЦЫ

Падобна і тут — заўсёды лепшыя вынікі мае працаўнік, які з'яўляецца:

1) штатным працаўніком,
2) мае сярэднюю адукацыю,
3) святліца — яго адзінае месца працы.

Працаўнік святліцы павінен умець навязваць кантакты з людзьмі. Павінен культурна «вырастаць» над другімі, арыентавацца ва ўсіх галінах жыцця краіны: гаспадарчай, палітычнай і культурнай, каб веды гэтыя пераказваць людзям. Праца ў святліцы вымагае арганізацыйных здольнасцей. Падрыхтоўка светліцовых павінна мець на ўвазе спецыялізацыю хоць у адным мастацкім напрамку, напрыклад, у ігры на нейкім інструменце, вядзенні хору, тэатру і гд.

У традыцыі святліца захавала сувязь з формамі працы лёгкімі, як мастацкія гурткі, розныя гульні. Гэтых лёгкіх форм чакаюць ад святліцы людзі, і светліцовы пра гэта павінен заўсёды памятаць.

### ГРАМАДСКІЯ ЦЭНТРЫ КУЛЬТУРЫ

Працаўнікі ГОК-аў павінны без агаворак мець сярэднюю, а нават вышэйшую адукацыю, са спецыялізацыяй у культурна-асветнай працы. ГОК дзейнічае і па-за межамі сваёй вёскі, таму яго кіраўнік павінен весці хоць адну пастаянную форму працы (напрыклад, хор). Кіраўнік ГОК-у працуе ўжо з платнымі інструктарамі, і да яго абавязкаў належыць знаёмства працы з калектывам (асновы псіхалогіі). Практыка паказвае, што кіраўнік ГОК-у ў ніякім выпадку не можа працаваць яшчэ дзе-небудзь, бо кепска дзеецца тады з яго ўласцівай працай.

Кіраўніком ГОК-у можа быць толькі чалавек з вялікім аўтарытэтам, высокай асабістай культуры, добры арганізатар з адпаведнай навуковай падрыхтоўкай.

### КЛУБЫ

Клубы для вёскі вельмі патрэбныя. Ды часта змяшчаюцца яны ў кепскіх кватэрах і тады не спаўняюць заданняў. Непаразуменнем з'яўляецца тое, што на гаспадара клуба кладзецца абавязак весці культурна-асветную дзейнасць. З доследаў відаць, што добра працуюць клубы там, дзе ёсць і дзейнічае грамадская рада клуба (класічны ўжо прыклад для гэтага — Старое Беразова). Таму як найхутчэй і як найбольш трэба ўзяцца за навуку членаў клубных рад.

Гаспадароў клуба, папулярна званых клубовымі, трэба вучыць культуры гандлю. Несумненна, каб быць культурным клубным прадаўшчыком, трэба быць і добрым культурным працаўніком наогул: мець сярэднюю адукацыю, умець працаваць з людзьмі, быць добрым арганізатарам. Кіраўнік клуба — гэта гаспадар, які культурна прымае гасцей, стварае для іх мілую атмасферу, дае навейшыя веды і навейшыя газеты. У такім клубе карысна і культурна будуць працаваць і адпачываць.

## хроніка дружбы

### ГУРТОК ВЫПУСКНІКОЎ САВЕЦКІХ ВУЗАЎ

19 студзеня г. г. у Цэнтры інфармацыі аб СССР у Беластоку (будынак Ваяводскага праўлення ТППР) адбылася сустрэча выпускнікоў савецкіх навучальных устаноў, якія працуюць на Беласточчыне. Сход адкрыла сакратар ВП ТППР З. Трыбульская, якая паінфармавала аб магчымасцях і патрэбе ўдзелу выпускнікоў савецкіх вузаў у працы ТППР, а таксама аб магчымасцях дапамогі выпускнікам савецкіх вузаў з боку ТППР у кантактах з роднымі навучальнымі ўстановамі і савецкімі калегамі.

Затым выступіў ініцыятар сходу дацэнт М. Таль з Вышэйшай інжынерскай школе ў Беластоку, які пазнаёміў прысутных з формамі дзейнасці выпускнікоў савецкіх вузаў у Польшчы. Аказалася, што ў кожным ваяводстве (апрача Беластока) працуюць пры Ваяводскіх праўленнях ТППР камісіі або гурткі выпускнікоў савецкіх вузаў і што гэта праца дае (ТППР і выпускнікам) добрыя вынікі. Дацэнт М. Таль запрапанаваў арганізаваць і ў Беластоку такі гурток. Яго прапанову ўсе горача падтрымалі, многія тут жа дэкларавалі сваю дапамогу, асабліва ў лектарскай працы.

Сход выбраў пяціасабовае праўленне гуртка, якое ў бліжэйшым часе апрацуе канкрэтны план працы. Старшынёй гуртка выбран дацэнт М. Таль.

Пасля выбараў удзельнікі сустрэчы за кубкам кавы ўспаміналі тады, праведзеныя ў СССР, і дзяліліся ўражаннямі з пасластудэнцкіх кантактаў са сваімі вузамі і савецкімі сябрамі.

Усіх тых выпускнікоў савецкіх вузаў, якія не былі на сустрэчы, праўленне гуртка просіць звязацца з ВП ТППР і падаць свае адрасы. Можна паведаміць аб сабе таксама тэлефанічна, званячы на нумар 13—52. (рл)



### У ТЭАТРЫ ІМЯ А. ВЯНГЕРКІ

Гаспадыня заезднага дому — так доўга і няясна тлумачыць слова «аберджыстка» польска-беларускі слоўнік выдання «Ведзы Паўшэхнай» з 1962 г.

Камедыю пад загалоўкам «Oberżystka» паставіў якраз беластоцкі тэатр. Аўтар — італьянскі драматург Карла Гальдоні.

**На здымку: Барбара Бардская (Мірандаліна) і Яўгені Дзяконскі (кавалер дзі Рыпафрата).** (вл)

# У ДРУЖНАЙ СЯМ'І

Так называецца падручнік беларускай мовы і літаратуры для чацвёртага класа пачатковай школы, які можна ўжо купіць у кніжных магазінах. Аўтарамі падручніка з'яўляюцца Лідзія і Мікалай Гайдукі. З-пад пяра гэтага ўдалага аўтарскага дуэту выйшаў ужо не адзін падручнік.

«У дружнай сям'і» — даволі аб'ёмістая кніжка, якая складаецца з 366 старонак, змястоўная і цікавая. Падзяляецца яна на сем раздзелаў. Кожны раздзел мае сваю назву: «Дзень добры, школа!», «Радзімая зямля», «Вось і зіма», «З мінулых дзён», «Ідзе вясна», «Сяброўства патрэбна народам», «Усюды лета, лета...» і трапна падабраны эпіграф.

Ужо з назвы раздзелаў відаць, што падручнік прадуманы так, каб у ім у адпаведным парадку знайшлася кожная пара года, з яе характэрнымі рысамі і заняткамі. Шырока і цікава разглядаецца ў падручніку жыццё школьнай сям'і. Многа месца адводзіцца таксама сучаснаму жыццю беларускага і польскага народаў і іх мінуламу, гісторыі. Праз усе раздзелы падручніка праходзіць асноўная ідэя — неабходнасць дружбы паміж народамі ўсяго зямнога шара.

У падручніку многа як празаічных, так і вершаваных твораў розных аўтараў. Тут сустрэнем як класікаў, так і зусім мала вядомых маладых аўтараў. Пасля кожнага твора выступаюць пытанні і адпаведна дапасаваная тэма граматыкі з практыкаваннямі, неразрыўна звязанымі са зместам твора. А гэта вялікая дапамога для настаўніка.

У цэлым падручнік удалы, прадуманы. Мае ён прыгожы і эстэтычны знешні выгляд. (св)

Пачатак на стар. 1

### ЮБІЛЕЙ ІНЖЫНЕРСКАЙ

сці — гэта далейшая папраўа памяшкальных умоў. Лічым, што пачнецца ў наступаючай пяцігодцы першы этап пабудовы новага комплекса будынкаў ВСІ пры Сверковай вуліцы.

Навуковыя доследы школы ў гадах 1971—1975, як у галіне ўласных тэм, так і прапанаваных прадпрыемствамі, будуць звязаны з актуальнымі і перспектывічнымі патрэбамі гаспадарчага і грамадскага развіцця краіны. Вартасць прапанаваных выдаткаў на навуковыя доследы школы ў наступаючай пяцігодцы складзе 41,8 мільёна зл.

Гледзячы з перспектывы дваццаці год, бачым, што нягледзячы на абмежаваныя магчымасці, уклад ВСІ ў развіццё тэхнічнага прагрэсу на Беласточчыне немалы. На нашую навучальную ўстанову, як на цэнтр тэхнічнай думкі, ускладзена вялікая адказнасць за навучанне спецыялістаў і прымяненне ў прамысловасці, будаўніцтве і сельскай гаспадарцы навейшых тэхнічных дасягненняў. Улады і работнікі ВСІ імкнуцца да таго, каб ператварыць яе ў вялікі навукова-дыдактычны цэнтр, які б аказваў вялікі ўплыў на развіццё гаспадаркі і стан навукі ў паўночна-ўсходніх рэгіёнах Польшчы.

Размову вёў **А. Карпюк**

# УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ ТРАДЫЦЫІ І БЕЛАРУСІСТЫКА Ў ПРАЖСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

У чэхаў зацікаўленне рускай мовай, а тым самым вялікай славянскай усходняй дзяржавай, звязана з пачаткамі развіцця славяназнаўства ў Чэхіі і імем Ёзэфа Даброўскага, вядомага вучонага, які быў таксама аўтарам русістычных прац, і з імем Антаніна Пухмаера, паэта і філолага, які ўжо ў пачатку мінулага стагоддзя напісаў першы размоўнік рускай мовы для чэхаў — кнігу на вельмі высокім моўным узроўні.

У 19-тым стагоддзі выдаваліся падручнікі і задачнікі практычнай рускай мовы (Колаж, Ёкл, Ранк), некаторыя з іх выходзілі нават у некалькіх выданнях. Усё гэта сведчыць аб тым, што ўжо тады рускай моваю цікавіліся не толькі спецыялісты, але і шырокія колы зацікаўленых, якія вучыліся чытаць, пісаць і гаварыць па-руску.

Абуджаныя славянафільскімі настроямі, чэхі і славакі імкнуліся лепш пазнаць славянскія народы царскай Расіі. Таму і з'яўляюцца пераклады на чэшскую мову прац не толькі рускіх паэтаў і празаікаў, напрыклад, Пушкіна альбо Талстога, але і ўкраінскіх — Тараса Шаўчэнкі і Івана Франко. І наадварот, добра вядома, што асоба вялікага змагара за праўду Яна Гуса была для Шаўчэнкі стымулам да напісання вядомага верша «Ерэтык».

Чэшска-беларускія культурныя сувязі існавалі ўжо ў пачатку 16-га стагоддзя. У 1517—19 гадах у Празе беларускі лекар і друкар з Полацка Францішак Скарына выдаў кірыліцай біблію і тым самым заклаў асновы беларускага кнігадруку. І зусім зразумела, што ўсходняя славістыка мела падставы развівацца ў Чэхаславакіі ўжо ў мінулым. Сёння руская, украінская і беларуская мовы вывучаюцца на філасофскім факультэце карлавага ўніверсітэта ў Празе.

Спынімся больш падрабязна на беларусістыцы. Фармальна ўзнікненне беларусазнаўства ў Пражскім універсітэце звязана з прызначэннем у 1945 г. І. Зільнскага на пасаду прафесара гэтага універсітэта па спецыяльнасці украінскай і беларускай моваў. Фактычна ж беларускі аддзел засноўваецца на 10 год пазней, у 1955 г., і рэпрэзентуе яго прафесар В. Барнэт, які займаецца беларускімі дыялектамі і гісторыяй беларускай пісьменнасці.

Гісторыка і мовазнаўцу стара-беларуская мова прыцягвае як сродак вывучэння яе для параўнання з іншымі усходнеславянскімі мовамі, а таксама і таму, што старажытная беларуская мова была дзяржаўнай моваю Вялікага Княства Літоўскага і была найбольш культываванай моваю на ўсім абшары тагачаснай Літоўска-Рускай дзяржавы. Акрамя гэтага, для навуковых доследаў было цікавым (дасюль адносна мала вывучанае) гістарычнае суседства беларускага народа і беларускай мовы з грамадствамі літоўскім і часткова латышскім. Зараз кафедра ўсходнеславянскіх моваў філасофскага факультэта разам з усходнеславянскім аддзелам Чэхаславацкай Акадэміі навук рыхтуюць спецыялістаў для доследаў у гэтай галіне. Міністэрства вышэйшай асветы СССР ужо згадзілася на прыезд нашага украініста ў СССР, дзе той мае вывучаць беларускую мову ў Мінску і літоўскую ў Вільнюсе.

Прафесар Барнэт займаецца праблемамі перакладаў і кансультуе перакладчыкаў з беларускай мовы. Акрамя таго, сучаснай беларускай моваю займаецца таксама дацэнт М. Затовканюк, які чытае лекцыі пра ўсходнеславянскія мовы. Ён распрацаваў асобныя тэмы адносна беларускай мовы ў параўнанні з рускай і украінскай мовамі і апублікаваў іх у навуковых часопісах. У цяперашні час вядуцца перагаворы з мінскімі беларусаведамі наконт супольнага складання практычнага падручніка для студэнтаў, што вывучаюць славістыку на філасофскім факультэце Пражскага універсітэта.

Энтузіястам беларускай мовы з'яўляецца др М. Зіма. Дасюль ён не меў магчымасці бываць у асяроддзі, дзе гавораць па-беларуску. Аднак пры дапамозе падручнікаў і самастойнага вывучэння ён авалодаў моваю настолькі, што прыязджаючым у Прагу беларусам цяжка паверыць, што беларуская мова ёсць ягонаю роднаю. Др Зіма адзін з найлепшых спецыялістаў у беларускай бібліяграфіі і аўтар чэхаславацкіх нормаў для транслітэрацыі беларускага алфавіту на алфавіт, стасаваны ў Чэхах.

Вялікія заслугі ў пашырэнні ведаў пра беларускую літаратуру ў Чэхаславакіі мае др В. Жідліцкі, які звязаны супрацоўніцтвам і сяброўскімі адносінамі з беларускімі пісьменнікамі, паэтамі і літаратуразнаўцамі. У сваіх лекцыях ён карыстаецца ведамі пра сучасную і старажытную беларускую літаратуру для параўнаўчых аналізаў з іншымі славянскімі літаратурамі.

Нейдзе тры гады таму назад выйшаў з друку ягоны вядомы слоўнік беларускіх пісьменнікаў у рамках больш шырокай публікацыі пра пісьменнікаў савецкіх рэспублік. Аб зацікаўленні шырокага чэхаславацкага грамадства гэтай публікацыяй сведчыць тое, што слоўнік выйшаў ужо другім, больш пашыраным выданнем.

Ва універсітэце ў Брно беларускую літаратуру рэпрэзентуюць др М. Кргоўн; зараз ён займаецца вывучэннем творчасці беларускага пісьменніка 19-га стагоддзя Дуніна-Марцінкевіча.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што вывучэннем беларускай мовы і літаратуры цікавяцца і іншыя славісты. Возьмем, напрыклад, прафесара К. Горалка, які вывучае беларускія слоўныя багацці і выступаў на гэтую тэму ў спецыяльнай літаратуры.

Акадэмік Б. Гавранэк у сваіх лекцыях карыстаецца беларускімі матэрыяламі і заўсёды высока ацэньвае манументальную працу акадэміка Я. Кар-



 

(Пачатак на стар. 1)

## ХРОНІКА БГКТ

● 11-га студзеня ў Бельску Падляшскім дзеці членаў БГКТ мелі цікавую ўрачыстасць — наваголнюю ёлку, арганізаваную аддзелам. Пасля адбылося спатканне прэзідыума аддзела са сваім актывам.

● 13-га студзеня актыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку спаткаўся на традыцыйнай танцавальнай вечарыне, якая запачаткавала ў аддзеле зімовы карнавал.

● 15-га студзеня сакратар па прапагандзе Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Вітальд Мікульскі прыняў сакратара ГП БГКТ Янку Зенюка, які паінфармаваў яго аб напрамках дзейнасці беларускай арганізацыі.

● Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку хоча арганізаваць у памяшканні Галоўнага праўлення пункт навучання беларускай мове школьнікаў. Ахвотныя да вывучэння роднай мовы могуць запісвацца ў аддзеле БГКТ на вул. Варшаўскай 11.

● З нагоды 51-ай гадавіны Беларускай ССР 17-га студзеня варшаўскі аддзел БГКТ у палацы Прымасоўскім арганізаваў урачысты вечар.

● 18-га студзеня дзеці членаў БГКТ з Гайнаўкі спаткаліся ў Доме настаўніка на навагодняй ёлцы. Было іх каля 300 асоб. Усіх дзяцей Мароз абдзяліў падарункамі.

● Для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ, 18-га студзеня таксама адбылася навагодняя ёлка ў Мілейчыцах, якую арганізаваў сямяціцкі аддзел.

● Беластоцкі аддзел БГКТ 17 студзеня арганізаваў танцавальную вечарыну для моладзі.

(мх)

## ПРА БЕЛАРУСАЎ З ГДАНЬСКА



**Аня Красько — сакратар праўлення гданьскага аддзела — працуе медсястрой у бальніцы чыгуначнікаў. У Гданьск трапіла 5 год таму назад — пасля заканчэння гайнаўскага ліцэя. Мама яе жыве ў Махнатым, а бацька памер у 1950 годзе. Аня шмат свайго часу прысвячае арганізацыйным справам Таварыства.**

Сабраліся яны ў адной з гэтых сярэдневяковых, прыгожых гданьскіх камяніц, побач праслаўленага фантана з Нептунам, побач пышнага Двара Артура. Сабраліся, зразумела, не ўсе, толькі нейкая часцінка тых, каго лёс закінуў менавіта ў Гданьск, Гдыню, Сопат. Там, каля мора, пражывае многа людзей розных нацыянальнасцей. У Гданьску дзейнічаюць: рускае, украінскае, грэцкае, яўрэйскае і ад нядаўна беларускае грамадска-культурныя таварыствы. Расплыліся яны сярод польскага насельніцтва.

Колькі сярод іх беларусаў?

Ніхто гэтага не ведае. Вядома аднак, што сярод беларусаў, пражываючых у Гданьску, Гдыні і Сопаце (ды не толькі там) назіраецца зусім натуральнае імкненне да згуртавання, да пошукаў узаемных кантактаў, да прабывання сярод «сваіх». Таму многія з іх, калі яшчэ ў Гданьску не было аддзела БГКТ, прымыкалі да рускага або ўкраінскага таварыстваў. Так было ў выпадку Зіны Сахарчук, якая ў гэтым годзе заканчвае навуку ў вышэйшай педагагічнай школе на матэматычным факультэце, а ў Гданьск прыехала з Гайнаўкі. Так сама было ў выпадку Галіны Варшыцкай, бацькі якой жывуць у надбужнай вёсцы Аслова, а яна пасля гайнаўскага ліцэя завандравала ў 1966 годзе ў Гданьск за працай. Аднак найбольш характэрным з'яўляецца жыццёвы прыклад Марысі Грыгарук. У Гданьску яна зусім нядаўна — ад верасня мінулага года. Жыла і вучылася ў Гайнаўцы. Праграмай і дзейнасцю нашага таварыства зусім не цікавілася. Яе ж акружала такое ж самае, як яна сама асяроддзе, была адной яго часцінкай. Яно выпаўняла яе пачуццёвыя і культурныя патрэбы. Калі аднак знайшлася ў іншым, у «чужым» для яе асяроддзі, тут жа адазвалася туга за «сваім», за родным. Сябра, хлопец з Гайнаўкі сказаў ёй аб існаванні ў Гданьску беларускай арганізацыі, і Марыся адразу запісалася ў члены БГКТ. Цяпер



**Валя і Валодзя Вішанкі ў час адной з вечарын, наладжаных гданьскімі сябрамі. Валодзя Вішанка — член праўлення гданьскага аддзела. Абое яны вельмі прыгожа спяваюць.**

гданьскі аддзел БГКТ аб'ядноўвае 120 членаў.

Хто яны?

Аня Красько, маладая, прыгожая, энергічная дзяўчына, якая з'яўляецца сакратаром праўлення гданьскага аддзела БГКТ, падлічыла, што найбольш, бо аж 43% членаў — гэта рабочыя, 34% — гэта інтэлігенты, а 17% сярод іх — студэнты. Аддзел існуе ад пачатку 1969 года, а два гады раней быў заснаваны ў Гданьску гурток БГКТ.

«Беларуская песня, жывое беларускае слова, — адзначаюць гданьчане ў сваёй справаздачы, — прыцягвала ўсё новых і новых членаў».

Элементы асветна-культурныя пераважалі ў дзейнасці гданьскага аддзела. У справаздачы гаворыцца пра вечарыны, пра даклады і ўрачыстыя сходы з нагоды 25-годдзя народнай улады. Але не толькі гэтае. Тут варта прыгадаць апінію прадстаўніка ваяводскіх гданьскіх улад. Старшы інструктар ваяводскага аддзела



**Гэты здымак быў зроблены ў час урачыстага вечара з нагоды 52-ой гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Марак — гэта Янка Куба з Арэшкава, які ў Гданьску служыў у войску, а яго суседка — Тэрэска Захарава, абое члены БГКТ.**

ўнутраных спраў, тав. Дамінік Петшак сказаў мне:

— Гданьскі аддзел Беларускага таварыства ўдаўся нам. Яго дзейнасць цэнім высока. Ён толькі, як адзін сярод меншасных арганізацый, якія дзейнічаюць у Гданьску, патрапіў наладзіць грамадскі чын у гонар 25-годдзя ПНР.

Сапраўды, 30 чалавек, актыўных членаў БГКТ, 13 ліпеня мінулага года на працягу 6-ці гадзін наводзіла парадак на дарозе, якая вядзе ў славуты Аліўскі зоапарк. За гэты чын і за іншую грамадскую дзейнасць дзякаваў гданьскім членам нашага таварыства прадстаўнік гарадскіх улад, намеснік кіраўніка гарадскога аддзела ўнутраных спраў, Генрык Раманоўскі.

Калі закончыўся сход, калі гданьчане назначылі сабе асноўныя заданні на 1970 год, калі папоўнілі састаў улад свайго аддзела, калі сакратар Галоўнага праўлення БГКТ, Янка Зенюк раздаў дыпломы і ўзнагароды, тады Ірэна Мельнікава дастала свой гармонік...

Ірэна Мельнікава! Гэта артыстычная душа і добры, шчаслівы дух гданьскага аддзела. З яе асобай звязана ўся яго гісторыя. Гэта яна вышукоўвала «сваіх», беларусаў.

— Вось высыплецца народ з царквы, — успамінае яна, — маладыя спыняюцца, гавораць, знаёмяцца, а я падыходжу да іх і пытаю: «Вы беларусы?». «Так», — гавораць. «Дык запісвайцеся ў беларускае таварыства». «А дзе яно?» — пытаюць. «Прыходзьце да мяне», — гавару і падаю ім свой адрас.

Сапраўды, усялякія сходы і сустрэчы адбываліся пачаткова ў яе на прыватнай кватэры.

Расцягнула пані Ірэна свой гармонік. Мелодыю падхапілі прысутныя, і паплыла свойская, блізкая сэрцу песня, за ёй другая і трэцяя. Сярод агульнага хору асабліва выдзяляўся голас Зінкі Сахарчук. Спявала яна ад душы, не шкадуючы голасу, быццам хацела вырваць з сябе тугу за родным, за далёкім, а так мілым. І ў сэрцы Гданьска, на Длугім Таргу, пад вокам Нептуна запахла



**Члены гданьскага аддзела БГКТ за грамадскім чынам у Аліўскім зоапарку.**

палямі Беласточчыны, замушела Белавежская пушча, пакланіліся бярозы і вербы. І радасць была на тварах, і шчасце, і пачуццё поўнай свабоды. Усяго вам добрага, дарагія сябры з Гданьска!

**Віктар Рудчык**

**Фота Ірэны Мельнікавай**

---

скага, які заснаваў навуковае беларусазнаўства.

Малюнак развіцця пражскага беларусазнаўства не быў бы поўным, калі б не прыгадаць бібліяграфічную публікацыю, якую выдае Чэхаславацкая Акадэмія навук пад назваю «Сусветная русістыка, украіністыка, беларусістыка», дзе можна знайсці падрабязныя інфармацыі пра беларускія працы, надрукаваныя ў навуковых часопісах розных краін свету. Інфармацыі пра навуковыя працы аб Беларусі падчас з'яўляюцца і ў перыядычных выданнях. Напрыклад, у часопісе «Славія» з'явілася рэцэнзія на кнігу савецкага лінгвіста Антановіча пра старыя беларускія выданні, якія былі напісаны па-беларуску, а надрукаваны арабскімі літарамі (т. зв. кітабы).

Чэхаславацкая беларусістыка — дысцыпліна маладая і займае адносна скромнае месца ў чэхаславацкай славістыцы. Спадзяемся, што развіццё славістыкі і блізкіх да яе галін навукі будзе вымагаць яшчэ большай увагі да вывучэння беларускай мовы і літаратуры, а таксама фальклору і мастацтва беларускага народа, што ў сваю чаргу будзе спрыяць славянскім народам у іхнім узаемным культурным і духовым узбагачэнні.

**М. Затовканюк**
дацэнт карлавага універсітэта ў Празе




### ЗНОЎ: АБОЕ РАБОЕ!

«Ніва» ад 21 снежня пісала пра балаган у разбудоўванні гарбарні ў Крынках. Беластоцкая будаўнічая фірма, якая адчула сябе найбольш вінаватай у тым, прыслала нам шырокае растлумачэнне сітуацыі, з якой вынікае, што вінаваты ўсе і ніхто. Зноў: абое рабое!

Фірма піша:

«Разбудаванне, рэканструкцыя і мадэрнізацыя гарбарні ў Крынках распачаты ў 1968 годзе пры няпоўнай тэхнічнай дакументацыі, падрыхтаванай Праектным бюро скуранай прамысловасці ў Кракаве. Аднак змены ў дакументацыі ў час рэалізацыі інвестыцыі сур'ёзным чынам перашкаджалі генеральнаму выканаўцы і інвестару таму, што работы адбываюцца пры адначасовай прамысловай прадукцыі гарбарні.

Цяперашняя сітуацыя з выкананнем работ у некаторых аб'ектах сведчыць аб запозненасці іх амаль на год часу (...) Прычыны таго наступныя:

— для будынка кацельнай не рэалізаваны інвестарскія дастаўкі, прадбачаныя на месяц студзень 1969 г.;

— з увагі на патрэбы прадукцыі інвестар не перадаў часткі будынка № 2 і не перадаў пад ліквідацыю будынка № 2а;

— у дырэктывах не ўзгоднена выкананне работ у паасобных аб'ектах з адначасовым утрыманнем бесперапыннай прадукцыі гарбарні;

— няма магчымасці пачаць будову вентылятарні, запланаванай у цяперашняй кацельнай, якая яшчэ выкарыстоўваецца.

Беручы пад увагу пералічаныя перашкоды, а таксама разважыўшы рэальныя выканаўчыя магчымасці, у час нарады 5 лістапада, арганізаванай генеральным выканаўцам з удзелам інвестара, устаноўлена, што:

1. У прадукцыйным будынку № 3 работы будуць закончаны ў тэрміне да 1 красавіка 1970 г. без урухамлення вентыляцыі і падвеснага транспарту (...)

2. Інвестар абавязаўся перадаць пад ліквідацыю прадукцыйны будынак № 2а. Будаўнікі пачнуць тут работу ад 1 красавіка 1970 г. Тэрмін выканання новага будынка № 2а ўстаноўлены да 30 чэрвеня 1971 года. З увагі на тое, што будуць тут знаходзіцца галоўныя вузлы тэхнічных, вентыляцыйных і энергетычных інсталяцый, скарачэнне тэрміну пабудовы гэтага аб'екта немагчымае.

3. У прадукцыйным будынку № 2 неабходна вымяніць сцены і канструкцыі столі, даху (...) Усе работы тут было пастаноўлена выканаць да 30 чэрвеня 1971 года.

4. У будынку № 1 будзе размешчана кацельная з гідрафорняю. Пры ўмове дастаўкі камплекта абсталяванняў ад інвестара разам з канцэсійнай дакументацыяй у тэрміне да 30 сакавіка 1970 года, цэласць работ будзе выканана тут да 30 верасня 1970 года.

5. Работы ў адміністрацыйным будынку № 5а будуць выкананы да 15 красавіка 1970 года.

6. Рэшта дапаможных аб'ектаў будзе рэалізавана ў тэрміне да 30 чэрвеня 1970 года.

З увагі на неабходнасць выканання канцавых работ у разбудове гарбарні, а таксама добраўпарадкавання пляцовак, астатні тэрмін рэалізацыі цэлага крынкаўскага аб'екта ўстаноўлены на дзень 31 ліпеня 1971 года».

Столькі вычыталі мы ў пісьме, прысланым у нашу рэдакцыю і падпісаным самім дырэктарам фірмы, мгр інж. Вацлавам Заругевічам. Засталося адно спадзявацца, што ўказаная дыр. Заругевічам запозненасць разбудовы гарбарні на адзін год не расцягнецца на два або на тры! Тэрміны любяць «коўзацца», падла!

**(ся)**

### УЗНАГАРОДА СПЕВАКУ

Пастановай Чэшскага музычнага фонду вядомаму беларускаму спеваку, пражываючаму ў Чэхаславакіі, Міхасю З.-Суміцкаму была прысуджана прэмія за 1968 год за яго песні і папулярызацыю музычнага майстэрства.

Віншуем і мы М. Забэйду-Суміцкага і жадаем новых поспехаў у новым годзе. (вл)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЧАЛАВЕК З... КРЫЛАМІ

Да гэтага часу толькі супрацоўнікам англійскай паветранай акадэміі ўдалося сканструяваць апарат для мускульнага палёту. Як вядома, гэты апарат праляцеў звыш ста метраў на невялікай вышыні. У брытанцаў з'явіўся паслядоўнік у Польшчы, у мазурскай вёсцы Кветнева. Ян Акалік, 22-гадовы селянін, пабудаваў ужо дзве лятаючыя машыны. Адну знішчыла яго жонка, а на другой ён зрабіў пробны палёт, які, на жаль, не ўвянчаўся поспехам. Апарат падняўся на невялікую вышыню і разбіўся. Аднак упарты канструктар не пакінуў сваёй задумы. Ён мае намер удасканаліць апарат і працягваць доследы.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...аўстралійскія абарыгены кідаюць бумеранг на 225 м. Гэта самая вялікая адлегласць, на якую ляціць прадмет, кінуты чалавечай рукой.

## КУЛІНАРЫЯ

### КАТЛЕТЫ ЦЯЛЯЧЫЯ З ГАРНІРАМ

Ад цялячай карэйкі нарэжце катлеты з костачкай. Кожную катлету асцярожна адбіце (да таўшчыні 1 см) секачом, змачыўшы яго ў халоднай вадзе, і надрэжце ў некалькіх месцах (каб пры смажанні катлеты не дэфармаваліся). Пасыпце катлеты соллю, змачыце ў бітым яйку і запаніруйце ў молатых сухарах.

Падрыхтаваныя катлеты пакладзіце на разагрэтую з маслам патэльню і смажце з абудвух бакоў да ўтварэння румянай скарынкі. Катлеты павінны быць добра прасмажаны.

Катлеты пакладзіце на блюда костачкамі ў адзін бок; паліце растопленым маслам.

На гарнір можна падаць смажаную бульбу, бульбянае пюрэ або адвараную гародніну, салату з сырой гародніны.

На 500—600 г. цялячай карэйкі 1 яйка, 2—3 ст. лыжкі молатых сухароў, 2—3 ст. лыжкі масла.

### ТОРТ ЛІМОННЫ, БІСКВІТНЫ

Размякчанае сметанковае масла змяшайце з цукровым пяском і здробненнай лімоннай цэдрай, знятай з двух лімонаў, і, увесь час памешваючы, паступова ўлівайце жаўткі і добра іх расцірайце. Усыпце пшанічную муку і замясіце цеста. Уліце збітыя на пену яечныя бялкі і асцярожна перамяшайце. Цеста выліце ў форму або патэльню, змазаную маслам і пасыпаную молатымі сухарамі. Форму трэба запаўняць на 2/3 яе вышыні. Торт выпякайце ў духоўцы пры тэмпературы 220—230°. Гатовы торт пасыпце цукровай пудрай.

На $1\frac{1}{2}$ шклянкі пшанічнай мукі $\frac{3}{4}$ — 1 шклянку цукровага пяску, 6—8 ст. лыжак сметанковага масла, 8—10 яек, цэдра з 2 лімонаў, 1—2 ст. лыжкі цукровай пудры.

## Наш Каляндар

# ПЕРАМОГА ПАД СТАЛІНГРАДАМ



Камандуючы 6-ай нямецкай арміяй фельдмаршал фон Паўлюс (злева), палонены савецкімі войскамі, па дарозе ў штаб 64-й арміі.

Было лета 1942 года. Чалавецтва ўваходзіла ў чацверты год II сусветнай вайны. Дзяржавы Восі, у асаблівасці гітлераўская Германія, трыумфавалі. Акружаў іх арэол славы і перамог у Польшчы, у Францыі, на Балканах і ў Афрыцы. Нягледзячы на паражэнне пад Масквой, войскі Гітлера знаходзіліся далёка на тэрыторыі СССР.

У такіх умовах пачалася гіганцкая бітва над Волгай, якая, з увагі на лік салдат і колькасць зграмаджанай зброі, не мела роўнай сабе ў гісторыі воен. Мільёны людзей, якія змагаліся з насіллем гітлераўскай няволі, з надзеяй кіравалі свае вочы на Волгу, разумеючы, што там вырашаецца іх лёс. Барацьба трывала 6,5 месяца і закончылася (2 лютага 1943 г.) — насуперак запэўненням гітлераўскай прапаганды — паражэннем і ліквідацыяй 330-тысячнай нямецкай арміі. Сярод 91 тысячы палонных было 24 генералы, 2500 афіцэраў. Чырвоная Армія адабрала ў праціўніка стратэгічную ініцыятыву і перайшла да агульнага наступлення на шырокім фронце — ад Ленінграда да Каўказскіх гор.



Паланёныя нямецка-фашысцкія салдаты і афіцэры ў Сталінградзе.



Захопленая ў баях пад Сталінградам нямецкая тэхніка.




### ЖЫВЫ КАНДЭНСАТАР

Яшчэ ў другой палове XVIII стагоддзя італьянскі вучоны і ўрач Гальвані сцвярджаў, што электрычнасць ёсць у кожнай жывой істоце. Погляд Гальвані знайшоў у наш час сваё развіццё ў вучэнні пра біятокі. Так, наша сэрца стварае напружанне ў адну тысячную вольта, мозг — у дзесяць разоў меншае. Большыя электрычныя імпульсы здольныя ствараць некаторыя рыбы і жывёлы. Напрыклад, электрычны



скат сілаю сваёй электрычнасці (напружанне 50—60 вольт) можа забіваць нават вельмі буйных рыб. Яшчэ большае электрычнае напружанне ў амерыканскіх вугроў — 500—600 вольт. Гэта тлумачыцца тым, што тысячы асобных клетак, якія ўваходзяць у іх мускульную тканку, злучаны адна з другою паслядоўна. Разрад электрычнага вугра можа аглушыць чалавека ў вадзе на адлегласці пяці і нават дзесяці метраў.

Не так даўно вядомая амерыканская фірма «Вестынгауз электрык» у горадзе Пітсбургу выставіла ў акварыуме цэлую сям'ю электрычных вугроў. Даўжыня самага вялікага з іх — 1,5 метра. На гэтай выстаўцы адзін вугор запальвае больш двухсот лямпачак. Разрад для запальвання выклікаецца штучным раздражняльнікам. На волі ж вугры даюць разрад, калі ў электрычнае поле, што акружае іх, трапляе тая ці іншая рыбіна.

Лічылі, што разрад электрычнага вугра адбываецца гэтак жа, як разрад гальванічнай батарэі, якая здольна даваць ток працяглы час. Цяпер даказана, што электрычныя органы вугра (а таксама і некаторых рыб) працуюць накшталт кандэнсатара, г. зн. перад моцным ударам павінна быць назапашана электрычнасць.

## „NASZA OJCZYZNA"

Так называецца каляровы, багата ілюстраваны месячнік Таварыства сувязі з замежнай палоніяй, які выдаецца ў Варшаве тыражом 20 тысяч экземпляраў. Гэты прыгожы і цікавы часопіс даходзіць да ўсіх кантынентаў. У шматлікіх краінах мае ён свае прадстаўніцтвы, якія прымаюць падпіску. Можна яго таксама выпісаць і ў Польшчы. Гадавая падпіска з высылкай за граніцу каштуе 134,40 зл.

## Чвэрць стагоддзя назад




### МОЙ СЯБАР ГЕНКА

Тры-чатыры начныя пераходы нам патрэбны былі, каб дасягнуць назначанай зоны. На гэты раз маршрут усіх трох груп таксама супадаў. Але камандзіры рашылі весці кожны сваю групу самастойна — так лягчэй заставацца незаўважанымі, пазбягаць сутычак.

Праз двое сутак абышлі горад Інстэрбург з захаду і заднявалі ў вялікім лясным урочышчы Папушынен. Праз некаторы час на краі гэтага ж квартала спыніўся ваенны абоз. Ездавыя кармілі таўстазадых куртатых коней, чысцілі зброю, бразгалі посудам. Мы рашылі падацца далей ад такога непажаданага суседства. Але спачатку Шпакаў паслаў Мельнікава і Цэлікава паглядзець, што робіцца на прасецы нашага квартала з правага боку. Хлопцы вярнуліся і сказалі, што там стаяць пад маскіровачнымі сеткамі нямецкія танкі. Іх няшмнога — усяго шэсць штук. Нічога другога не заставалася, як перачакаць, быць напагатове. Варта было каму-небудзь з салдат адысці ад свайго абозу метраў на сто, і нам — бяды не мінуць.

Усё абышлося: у другой палавіне дня абоз паехаў. Як толькі прыцямнела, мы пайшлі на паўночны захад, сваім маршрутам. Шпакаў захаваў парадак перамяшчэння групы такім жа, якім устанавіў яго Крылатых: уперадзе ішоў ён сам, потым я, потым Мельнікаў, радыст, Юшкевіч, Цэлікаў і Аўчароў.

Яшчэ перад вечарам навіслі густыя, нізкія хмары. Пацягнула сырасцю, прэлым лісцем. Нам такая пагода для пераходаў здавалася найбольш зручнай. Па абочынах прасекі мы ішлі бясшумна і хутка.

На скрыжаванні прасек пачуліся крыкі:

— Гальт! Гальт! Стой! Стой!

Я імгненна ўпаў, адкаціўся ўбок і паслаў некалькі кароткіх чэргаў туды, адкуль крычалі. Страляў і яшчэ нехта з нашых. Адпоўз назад. Сабраліся ўсе, не было толькі Шпакава. Я папоўз зноў у тым жа напрамку, адкуль крычалі і стралялі, пачаў клікаць: «Мікалай! Мікалай!» Але ніхто не адгукваўся. Я перапоўз на той бок прасекі, па якой ішоў Шпакаў, прыслухаўся — мёртвая цішыня.

— Мікалай! — зноў паклікаў я. У гэты час нешта бліснула, ірванула зямлю, пачулася некалькі вінтовачных стрэлаў. Нясцерпны боль разануў нагу. Я крыху адпоўз, паспрабаваў устаць, але не змог.

Падпоўз Генка.

— Бярыся за мяне — хутчэй будзе, — прапанаваў ён, падставіўшы плячо.

Я абняў яго вузкія хлапечыя плечы. Хіба гэта апора! „Лепш бы ты, Генка, ішоў з усімі", — думаў я, але сказаць аб гэтым яму ў мяне не хапіла духу. Я баяўся застацца адзін. Ён, Генка, стаў той маральнай апорай, без якой я не мог абысціся. Колькі разоў потым, гледзячы на яго пакуты, я шкадаваў, што прывязаў яго да сябе. Але яшчэ больш удзячны быў за тое, што ён заўсёды быў са мною побач, бо застаўшыся адзін... Лепш пра гэта не думаць...

Ісці я не мог зусім. Ноч можна перасядзець і тут, у якіх-небудзь пяцідзесяці метрах ад засады. А што рабіць днём, калі пачнецца прачэска, пагоня? Прыняць бой? Але ж гэта будзе апошні бой...

Я паспрабаваў паўзці на чацвярэньках — усё ж да раніцы можна пераадолець хоць якую там адлегласць. Але праз некалькі крокаў зразумеў, што з гэтага нічога не атрымаецца — сто метраў бліжэй, сто далей ролі не іграе. Я сеў, абапёршыся спіной на камель, і заплюшчыў вочы.

Пачуўся нейкі шум. Я расплюшчыў вочы. Генка стаяў побач. Насцярожыўся, схапіўшыся за аўтамат. Па прасецы, у той бок, адкуль ішла наша група, прасунулася міма нас калона людзей. Над лесам ужо стаяў нізкі месяц. Я глянуў на гадзіннік — чатыры гадзіны назад адсюль пайшла наша група. Дзе яна цяпер?

— Зрэж, Генка, які-небудзь кіёк, каб абапірацца можна было, як на мыліцу.

Генка зрэзаў двухметровую бярозку. Галінкі і пянёк прыкрыў мохам. Я ўстаў, паспрабаваў ісці, налягаючы на палку. Хворая нага чаплялася за зямлю і вельмі балела. Прыйшлося падцягнуць яе і падвязаць ззаду да папругі.

Так крок за крокам пайшлі ў адным напрамку. Рашылі хавацца дзе-небудзь у полі. На ўзлессі я застаўся чакаць, а Генка пайшоў абследаваць поле. Метраў за дзвесце ад лесу была канава, якая раздзяляла палеткі. На ёй расла елка. Яе разложыстыя лапы слаліся па зямлі. Мы і залезлі пад іх.

Раніцай мы ўбачылі невялічкі статак кароў. Яго прыгнаў пастушок гадоў дванаццаці. Спачатку ён хадзіў каля лесу, а потым падышоў да нашай ёлкі і стаў шпурляць у яе каменнямі, цэлячыся па шышках. Адна карова пералезла цераз канаву на зялёны дыван азіміны.

— Куды, праклятая немка, каб ты здохла! — закрычаў пастушок і кінуўся выганяць яе.

— Беларус — свой хлопец... — сказаў Генка.

— Ага, недзе са Случчыны. Там якраз так гавораць...

— Што, калі з ім пагаварыць? Можа есці прынясе?

І я падумаў тое самае. Але як гэта зрабіць? Можа з перапуду пабегчы і расказаць сваім гаспадарам.

Больш да елкі пастушок не падыходзіў.

Вечарам Генка прапанаваў:

— Пабудзь тут, а я схаджу на хутар, яды прынясу.

— Не, браток, аднаму, без падстрахоўкі, нельга. Прыйдзе пацярпець, пакуль нага крыху адыдзе.

За другую ноч пракандыбалі мо з кіламетр ці больш. На днёўку зноў спы-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НІНА ВОЙНА



Наша дзяржава стварыла ўсе магчымасці, каб беларускай мове навучалі ў школах, каб беларуская нацыянальнасць у Польшчы развівалася. Добра разумее гэта настаўніца беларускай мовы ў Орлі Ніна Война. Яна ўмее прывіваць любоў да беларускай мовы, яна ўмее пераканаць у неабходнасці вывучэння роднай мовы не толькі сваіх выхаванкаў, але і іх бацькоў.

Прыгожасць беларускага слова Ніна Война перадае і на бацькоўскіх сходах. Не раз бывала так, што бацькі, якія прыйшлі на вывядоўку, глядзелі і слухалі артыстычную частку на беларускай мове ў выкананні сваіх дзяцей. Гэта прычынілася да таго, што ўсе бацькі таксама палюбілі беларускую мову, і таму ў апошні час няма ў васьмікласнай пачатковай школе ў Орлі адмовы ад навучання роднай мове.

Ніна Война з трыбуны настаўніцкіх канферэнцый часта таксама выступае і пераконвае, як трэба працаваць у школе, каб беларуская мова нічога не траціла на значэнні і аўтарытэце сярод настаўнікаў, каб яна так сама высока ставілася, як польская мова і іншыя прадметы. Ніна Война працуе настаўніцай 15 год, а ў Орлі 7 год. У гэтай школе 13 настаўнікаў. І менавіта яе настаўнікі выбралі сакратаром партыйнай арганізацыі. А гэта ўжо сведчыць аб аўтарытэце. Ніна Война з'яўляецца актывісткай бельскага аддзела БГКТ.

(мх)

Фота П. Зінкевіч

## КЛУБ У КАРЫЦІСКАХ

Карыціскі — невялікая вёска. Жыве ў ёй 45 сем'яў. Каб было дзе сабрацца на нейкія мерапрыемствы, жыхары вёскі вырашылі пабудаваць рамізу-святліцу. Праўда, будавалася яна вельмі доўга, дзесяць год, але нарэшце, у 1968 годзе будова была закончана.

Раміза-святліца з'яўляецца найпрыгажэйшай у грамадзе Стары Корнін. Сюды заўсёды прыходзіць многа людзей на перадачы тэлебачання. У гэтай святліцы гайнаўскі ГС арганізаваў клуб селяніна. І ён купіў сюды тэлевізар.

28 снежня ў клубе селяніна гурток вясковых гаспадынь арганізаваў паказ падрыхтоўкі рыбных блюд, які вяла інструктар з павета. Пасля гайнаўскім аддзелам БГКТ быў высветлены савецкі фільм.

(хх)

## ЁЛКА Ў БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ

10 студзеня г. г. адбылася ёлка ў бельскім аддзеле БГКТ. На ўрачыстасць сабраліся члены праўлення аддзела БГКТ, старшыні гурткоў БГКТ, настаўнікі беларускай мовы і ўвесь актыў аддзела, на чале са старшынёй Міколам Гайдуком. Усіх было больш як 100 чалавек.

Дзед Мароз (у асобе Янкі Сліўко) уручыў дзецям больш як 80 пачак.

Пасля ўручэння пачак і дзіцячага карагода (які працягваўся ад 15 да 19 гадзіны вечара) танцавалі пад гукі аркестра бацькі і актывісты аддзела.

**Іван Паднарэўскі, Бельск Падляшскі**

---

ніліся на полі, пад купкай невялічкіх густых елачак. Ціха было гадзін да дзесяці. Потым аднекуль прыехалі тры вялізныя крытыя аўтамашыны. Яны спыніліся непадалёку ад нас, з іх з вясёлым шумам і гоманам пасаскаквалі юнакі, а потым вылезлі і старыя. Усе ў форме фольксштурмістаў. Мы прыгатаваліся да бою. Пачулася каманда строіцца. Перад строем афіцэр нешта гаварыў. Раздзяліўшыся на тры групы, фольксштурмісты прайшлі міма нашых елачак, спыніліся на сярэдзіне поля і пад каманду гарластага унцера пачалі адпрацоўваць страявы шаг.

Гэта была вучэбная пляцоўка, палігон для падрыхтоўкі навабранцаў. Праз некалькі гадзін маршыравання фольксштурмісты селі на машыны і паехалі. Да вечара было яшчэ шмат часу, і мы разумелі, што небяспека не мінула.

Пасля абеду прыехалі тыя самыя машыны. Цяпер фольксштурмісты стралялі ў фанерныя макеты фауст-патронамі.

— Здорава лупяць гэтыя іх фаўсты! — зазначыў Генка.

— Так, Гена, — адказваю. — Фауст па-нямецку — кулак. Кулак супраць танкаў. Зарад у яго такі, што прабівае браню. Адным словам, штука нядрэнная...

К вечару я разгарнуў карту. Трэба было ісці на хутар па яду і адтуль — куды-небудзь у лес, каб можна было хоць трошкі паспаць. Мы ж трэція суткі вачэй не звялі. Боль прытупіўся, больш паслушнай стала мыліца.

Спяшаліся, каб трапіць на хутары ў першую палавіну ночы, да таго, пакуль узыдзе месяц.

(Працяг будзе)

## БУФЕТ НА ЧЫГУНАЧНАЙ СТАНЦЫІ

На чыгуначнай станцыі ў Семяноўцы працуе шмат людзей. І вельмі добра, што тут абсталяваны буфет, дзе можна з'есці, папіць гарачай гарбаты, купіць папяросаў, цукерак ці іншых ласунак. Буфетчыца Галіна Садоўская заўсёды культурна абслугоўвае кліентаў. За гэта яе паважаюць людзі. Прыемна і тое, што буфетчыца дбае аб чысціні і парадку ў сваёй свайго роду установе.

Б. Я.
Семяноўка




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву я ў горадзе. Вучыўшыся ў сярэдняй школе, пазнаёмілася са Сташкам. Мы пакахалі адзін другога. Сташэк не меў нават поўнай сярэдняй адукацыі. Я для яго зрэзыгнавала са студыяў і пачала працаваць. Ён таксама працаваў. Восенню Стася забралі да войска. Я асталася цяжарнай. Па нейкім часе Сташэк вярнуўся з войска (з прычыны хваробы). Мы пажаніліся. Мае бацькі выракліся мяне за тое, што адзіная іх дачка нарабіла ім столькі сораму. Пачалі мы жыць у цёшчы, якая аказалася сапраўды вельмі добрай жанчынай. Месяц па шлюбе нарадзіўся ў нас сын. І здавалася б, што пачалі мы зусім спакойнае жыццё. Я намаўляла мужа ісці вучыцца, і ён пачаў хадзіць у вечаровую школу. Аднак па пэўным часе я заўважыла, што муж прыходзіць дамоў пазней, як павінен і заўсёды выпіўшы. Калі я спытала, што гэтаму прычынай, адказаў мне, што маю многа абавязкаў без яго, а ён не малое дзіцё і магу пра яго не турбавацца.

Неўзабаве мая сяброўка сказала мне, што Сташэк ходзіць з прыгожай жанчынай. Я гэтаму проста не верыла. Пастанавіла дапільнаваць. Тады і пераканалася. Вярнулася я дамоў і аб усім сказала мужу, а ён нават не здзівіўся. Яму ж толькі 20 год, дык чаму ж не пацікавіцца прыгожай жанчынай? Пасля гэтага я захварэла і папала ў бальніцу. Муж наведваў мяне і кляўся, што болей гэтага не паўторыцца. Аднак паўтарылася. Я вырашыла пакінуць яго. Сташэк не пусціў мяне, пачаў плакаць, перапрашаць і абяцаць, што ўсё ўжо будзе добра. Аднак і дагэтуль не відаць нават пачатку гэтага «іншага», лепшага. Не прашу я парады, але хачу, каб маё пісьмо было перасцярогай для маладых дзяўчат. Мне толькі 20 год, а колькі ўжо я перажыла! А можа і Сташэк прачытае?

А. М. з Бельшчыны

Друкуем у цэласці пісьмо А. М. з Бельшчыны, а паколькі праблема тэта ў нас заўсёды актуальная і частая, просім, хай тыя, якія ўжо гэта перажылі, мо' знайшлі які выхад, напішуць у наш куток. Чакаем на лісты.

## ПРАЦА Ў СТАЛОВАЙ

Няма лепшай працы, чым у сталовай. Усё роўна якая там праца, кухарская ці пры мыцці пасуды, або якая-небудзь іншая. Усё роўна таксама, якая сталовая. Амаль усюды паступаюць таксама. Ядуць колькі ўлезе і ўсё найсмачнейшае. Але найважнейшая справа, што за кожным разам, выходзячы са сталовай, можна ўзяць дахаты штук 10 яек, кавалак мяса, шмат каўбасы і г. д. Бяруць столькі, каб хапіла на ўсю сям'ю. Бяруць у сталовай усе, хто толькі там працуе. І таму пераважна пануе салідарнасць працаўнікоў сталовак. Усе яны так рыхтуюць абеды людзям, каб усяго як найбольш засталося для сябе.

Праўда, часам бываюць непаразуменні сярод гэтых злодзеяў у сталовых. Не могуць роўна падзяліць украдзенага. Бывае і так, што прыдзе новы чалавек у сталовую да мыцця пасуды ці чышчэння бульбы, а нават да іншай працы. Ён незнаёмы з такімі парадкамі. Ён бунтуецца, ён хоча давесці праўду. І калі знойдзецца такі чалавек, дык усе зговарацца і дакажуць сумленнаму — несумленнасць, працавітаму — лянівасць. Але найчасцей бывае так, што і гэты новы чалавек з часам пачынае насіць дахаты прадукты, пачаткова менш, пачаткова саромеючыся, а пасля так, як усе, гэта значыць, каб пракарміць усю сям'ю.

Бывае і так, што прыйдзе новы кіраўнік ці новы повар, ды ён не можа знесці, што ўсе цягнуць не менш ад яго. Ён хоча забараніць кражу, але сам не перастае браць са сталовай. Гэта, як правіла, канчаецца «трагічна» для яго самога, бо ўсе такія хітрыя, такія «спецыялісты», што выгрызуць, што напусцяць кантроль, што знішчаць такога «разумнага». І таму як правіла ў сталовай пануе салідарнасць: «рука руку мые», і ўсім добра.

**М. Масоўскі, Беласток**

**Ад рэдакцыі:** Так думае аб працы ў сталовай наш карэспандэнт. А што думаеце аб гэтым вы?

## ВЯРНУЎСЯ З ВОЙСКА

Ужо мінула тры месяцы з таго часу, як я развітаўся з вайсковымі казармамі ў Шчэціне, дзе праходзіў вайсковую службу. Далёка ад роднага дому мне прыпала служыць у арміі, але думкамі я быў заўсёды ў нашых старонках. Часта сніліся родныя бацькі, шчабятлівыя, вясёлыя дзяўчаты і нашыя пясчаныя палі з пералескамі. Сумаваў я па ўсім. Але найбольш сумна мне было па роднай беларускай мове. Яе там у далёкім Шчэціне вельмі рэдка можна пачуць. Бывала, спаткаешся са знаёмым чалавекам з нашага боку, або сустрэнеш «свайго» хлопца ў войску, адыдзеш тады ў бок і давай гаварыць па-свойму, па-беларуску... У Шчэціне быў я два гады, але «Нівы», на жаль, я не мог сустрэць у цэлым горадзе, не мог пачытаць на роднай мове.

Вярнуўшыся з войска, некалькі тыдняў памагаў бацькам на гаспадарцы, а пасля я паступіў на работу. Працую зараз магазінерам на станцыі ў Семяноўцы. Пасля работы ў вольныя хвіліны я па-ранейшаму чытаю кніжкі, аглядаю тэлебачанне, слухаю радыё, або іду з сябрамі ў клубакавярню... Пастанавіў таксама па-ранейшаму пісаць да цябе, дарагая «Ніва».

**Янка Бура, Тарнопаль**

## ШКОЛЬНІКІ З ЛЕВАК

Пад кіраўніцтвам настаўніцы Ірэны Чыжэўскай у пачатковай школе ў Леўках гарцэры зрабілі шмат кармушак для птушак і паснікаў для звяроў. І так дапамагаюць яны пражыць гэтым жывёлам зімовую галадоўку, падсыпаючы зерне, крошкі хлеба, вывешваючы скуркі саланіны. Вялікую падтрымку маюць і курапаткі, якія падыходзяць аж пад самыя будынкі вёскі, а таксама і зайцы, якія не заўсёды дагрэбуцца пад глыбокім снегам да азімін або травы.

*

На новы год вучні падрыхтавалі шмат танцаў, інсцэнізацый. Шмат папрацавала з імі настаўніца Анастасія Залеўская.

*

Восенню гарцэры збіралі металалом у сваёй і суседніх вёсках, збіралі таксама насенне кветак. За сабраныя грошы ездзілі ў Бельск Падляшскі на цікавыя кінафільмы. Цяпер задумалі паехаць на краязнаўчую экскурсію.

**Янка Цялушэцкі**



Нараўка. Чакаючы на самаход. Фота Цаф — Сянько

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Stawka większa niż życie" (polski), „Tylko umarły odpowie" (polski), 4—8.

**Дубіны**
„Deszcz padał na szczęście" (czeski), „Molo" (polski), 8—9.

**Нараўка**
„Twój współczesny" (radz.), „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 4—8.

**Нарва**
„Burza" (jugosł.), „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 4—8.

**Чыжы**
„Dziennik młodego małżeństwa„ (fiński), „Zbrodnia przy ulicy Dantego" (radz.), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ostatnie dni" (polski), „Kapryśne lato" (czeski), 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Taki duży chłopiec" (radz.), „Komedia pomyłek" (polski), 4—8.

**Орля**
„Twój współczesny" (radz.), „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 4—8.

**Райск**
„Pomyłka szpiega" (radz.), „Napad stulecia" (angl.), 4—8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Flip, Flap i inni" (USA), 3—4. „Dziewczyna z diabelskiej przystani" (węgierski), 5—6. „Dożyjmy do poniedziałku" (radz.), 7—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**
„Wniebowstąpienie" (polski), 7—8.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Jezioro Starej sowy" (NRD), 3—4. „Trzy godziny miłości" (jugosł.), 5—6. „Kobieta wąż" (angl.), 7—8.

**Мельнік**
„Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), 3—4. „Kolekcjoner" (angl.), 5—6. „Między wrześniem a majem" (polski), 7—8.

**Мілейчыцы**
„Pałace w płomieniach" (rumuński), 3—4. „Kolekcjoner" (angl.), 5—6. „Kobieta wąż" (angl.), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 3—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Przygody Tomka Sawyera" (rumuński), „Śmierć Indianina" (rumuński), 4—8.

**Новы Двор**
„Wiryneja" (radz.), „Na Rusi" (radz.), 7—8



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego PUPiK „Ruch" NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich, jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. W-3 Nakład 7122



 

